■ АДНА ЗЯМЛЯ



Яны сустрэліся ў Маскве. Фота з сямейнага альбома Любові КАРПОВІЧ.

# Масква. Год 1957-ы

Патрапіць на Міжнародны фестываль моладзі і студэнтаў, які праходзіў у Маскве ў 1957 годзе, было за шчасце. Тут можна было "ўжывую" сустрэць чалавека з-за мяжы. І не проста сустрэць, а сустракацца паўсюдна. У складзе дэлегацыі моладзі з Маладзечанскай вобласці была ў Маскве і **Любоў Карповіч**, на той час сакратар пярвічнай камсамольскай арганізацыі калгаса "Кастрычнік" Маладзечанскага раёна. На фатаграфіі з яе сямейнага альбома яна стаіць справа ад францужанкі **Жэнеўевы** з Парыжа. Жэнеўева у светлай сукенцы.

— Мы сустрэлі Жэнеўеву з сябрамі, — згадвае Любоў Іванаўна, — проста на вуліцы. Дакладна не памятаю, як гэта было. Але гэткія сустрэчы і фатаграфаванні на памяць былі пастаяннымі. Час быў такі. Мы хадзілі па Маскве, спявалі песні. Нават у метро. Нас, праўда спынялі — метро не тое месца, дзе можна спяваць. Але былі маладыя. **Валодзя Калачык** толькі прыйшоў старшынёй у калгас "Светлы шлях". Гэта пасля ён стаў вядомым на ўвесь Саюз Героем Сацыялістычнай Працы.

Маладыя былі **Надзя Капыткова** і **Міхась Мацюта**, якія цяпер жывуць у Маладзечне. І тыя незнаёмыя французы, якія стаяць побач на гэтай фатаграфіі. Магчыма, хтосьці знойдзе на гэтай фатаграфіі сябе або сваіх знаёмых. І згадае далёкі 1957-ы.

**Мікола ГАЙДУК.**

■ ПАМЯЦЬ

# Свечка, якая хутка згарэла

**Год таму ў далёкай Амерыцы памер наш зямляк, прафесар Віктар Міхайлаў. Яму было крыху больш за 50.**

Непадалёку ад прыгажуні Вяллі ў цяністым садзе патанае сяліба вядомых у Вілейцы настаўнікаў **Міхайлавых**.

**Любоў Змітраўна** ўводзіла вучняў у чароўны свет прыгожага слова — выкладала рускую мову і літаратуру. **Павел Барысавіч** адкрываў таемны свет магутных сілаў прыроды на ўроках фізікі. У сям'і панаваў дух высокай культуры ўзаемаадносінаў і побыту. Культ ведаў тут літаральна лунаў у паветры. Міхайлавы захапляліся навінкамі культуры і навукі, адкрыццямі тых часоў.

У такой жыватворнай атмасферы павагі да людзей і цягі да штодзённага набытку ведаў гадаваліся іх дзеці. Сынпершынец **Віктар** стане доктарам фізіка-матэматычных навук, прафесарам. А дачка **Ларыса** — кандыдатам медыцынскіх навук.

Віктар з'явіўся на свет 13 снежня 1949 года. Вучыўся ў сярэдняй школе №2, у якой працавалі яго бацькі. Вызначаўся няўрымслівай прагай да ведаў, асабліва да вывучэння матэматыкі і фізікі. Быў душой класа, яднаў вакол сябе вучняў дапытлівага розуму, сур'ёзных і разважлівых.

І да сёння ўспамінаюць выпускнікі, як падчас адпачынку Віктар з сябрамі на пляжы выводзіў формулы на пяску ці нават у лазні на запацелым шкле вокнаў.

У 1967 годзе Віктар паступае на фізічны факультэт БДУ і заканчвае яго з адзнакай у 1972 годзе па спецыяльнасці "радыёфізіка".

Спачатку працуе стажорам-даследчыкам Інстытута электронікі Акадэміі навук БССР. У 1974 годзе пачаў шлях малодшага навуковага супрацоўніка, а затым стаў загадчыкам лабараторыі НДІ прыкладных фізічных праблем Белдзяржуніверсітэта.

Навуковы ўзлёт Віктара Паўлавіча быў даволі хуткі. У 1980 годзе абараніў кандыдацкую, а ў 1989 — доктарскую дысертацыю. У 1994 годзе яму прысвоенае вучонае званне прафесара.

Па яго ініцыятыве былі створаны Міжнародны лазерны цэнтр, які яму даручылі ўзначаліць у 1993 годзе. Гэты Цэнтр стаў адным з вядучых навуковых цэнтраў рэспублікі ў галіне лазернай фізікі.

У 1996 годзе Віктар Паўлавіч стаў загадчыкам кафедры лазернай тэхнікі і тэхналогіі БДПА.

На працягу свайго навуковага жыцця В. Міхайлаў вызначаўся вялікай працаздольнасцю і ўменнем заўжды быць на вастрыні важнейшых навуковых дасягненняў. Нястомная энергія і мэтанакіраванасць дазволілі яму падрыхтаваць 12 маладых вучоных, якія абаранілі кандыдацкія і доктарскія дысертацыі. Карпатлівая навуковая праца і глыбокія веды дазволілі яму падрыхтаваць і апублікаваць звыш за 300 навуковых работ, стаць сусветна вядомым вучоным. Ён атрымаў 22 аўтарскія пасведчанні на вынаходніцтвы. Яго даследаванні і навуковыя працы атрымалі шырокае прызнанне сусветнай навуковай грамадскасці.

Навука патрабуе ахвяр, поўнай самааддадзенасці ў служэнні яе высокім мэтам. Гэты прынцып цалкам увасобіў Віктар Паўлавіч у жыцці і навуковай дзейнасці. Як тая свечка згарае хутчэй, якая ярчэй свеціць, — яго жыццё, кароткае і яркае, скончылася так нечакана.

Віктар Паўлавіч страціў здароўе, відаць, ад празмернай працы, ад перанапружвання духоўных і фізічных сіл.

Лячыўся ў ЗША, папраівўся — і зноў акунуўся ў напружаную працу, якая не пакідала яму часу на адпачынак. І зноў цяжкая хвароба.

Урад ЗША выдзеліў сродкі на лячэнне і догляд за нашым вядомым вучоным. Але 20 лютага 2001 года здарылася непапраўнае: Віктара Паўлавіча не стала. Чужая, але гасцінная заакіянская зямля прыняла яго на вечны спачын.

Памяць пра Віктара Міхайлава, нашага слаўтага земляка, назаўсёды застанецца ў сэрцы кожнага, хто яго ведаў.

**Аляксандр НАРКЕВІЧ,**
**Вілейка.**

■ АНОНС

## Выстаўка ў музеі

**МАЛАДЗЕЧНА**. Сёння ў Мінскім абласным музеі ў Маладзечне адкрываецца выстаўка работ вучняў Маладзечанскай дзіцячай мастацкай школы "Традыцыі і сучаснасць". Сярод работ творы з саломкі, выцінанкі, гліняныя цацкі, лялькі з лёну, графіка.

**Мікола ГАЙДУК.**

## Прэзентацыя кнігі вершаў

**ВАЛОЖЫН. 27 студзеня ў Цэнтры культуры адбудзецца прэзентацыя кнігі вершаў валожынца Міхася Курылы «Асеннi рэнесанс».**

На свята запрошаныя паэты **Алесь Пісьмянкоў**, **Навум Гальпяровіч**, **Віктар Шніп**, **Людміла Рублеўская** і сябры па пяры з Валожыншчыны. Гэта другі зборнік Міхася Курылы, а першы — "Белы птах" — выйшаў 5 год таму.

**Вольга ПІЛІПЕНКА.**

## Абакралі

**МАЛАДЗЕЧНА. У мінулую пятніцу па вуліцы Вольная абакралі дзве кватэры. А 22 студзеня тое самае адбылося з кватэрай па вуліцы Б. Хмяльніцкага.**

Крадзяжы аб'ядноўвае тое, што злачынцы ішлі на справу днём. Каб увайсці, выламалі дзверы і пакінулі гаспадароў без залатых рэчаў і грошай. Усе кватэры ў дамах, дзе няма дамафонаў.

**Вольга ПІЛІПЕНКА.**

■ ХУТКАЯ ДАПАМОГА

# За дапамогу – грубасць?

**МАЛАДЗЕЧНА. 12-15. Званок:**

**— Алё, чалавека збіў аўтобус!**

**— Гаварыце адрас.**

**Праз 1,5 хвіліны брыгада хуткай дапамогі ўжо імчалася на выклік. І так кожны дзень.**

У сярэднім работнік хуткай дапамогі працуе па 12 гадзін, без перапынку на абед. Толькі за мінулы год было 52634 званоты. Часта людзі выклікаюць "Хуткую" па дробязях.

Пра гэта расказвае загадчык аддзялення **Аляксандр Бельскі**:

— Нас "забіваюць" неадкладнай дапамогай. Напрыклад, некаторыя не жадаюць ісці ў бальніцу, каб памераць крывяны ціск. Тэлефануюць нам. А тым часам каму-небудзь патрэбная больш сур'ёзная дапамога. За 2001 год такіх выклікаў было 31720. Хочацца яшчэ раз нагадаць, каб выклікалі хуткую пры:

— няшчасных выпадках;

— раптоўных хваробах і раптоўным пагаршэнні стану здароўя.

Сёлета ў "Хуткай" працуюць 12 брыгад, а з 1 студзеня з дыспансера пераведзеная і псіханеўралагічная. Фельчарскі склад прыкметна памаладзеў, а выпускнікі медвучылішчаў ужо загадзя прыносяць заяўкі, каб узялі на работу.

Што ж іх чакае?

Пра цікавыя выпадкі і не толькі расказваюць людзі, якія працуюць ад 2 да 30 год.

**Багдан Лянцэвіч**, галоўны ўрач:

— Аднойчы выклікаюць: "Памірае дзяўчынка". Прыязджаем, а там сабака. Ды яшчэ гаспадар нашага фельчара з лесвіцы спусціў. Звярнуліся ў міліцыю. Скончылася тым, што крыўдзіцель пасадарыў сабаку. За апошні час стала больш выклікаў да алкаголікаў. У іх то траўмы, то псіхоз. Часта на нас кідаюцца. Вялікая праблема і з бамжамі, якіх няма дзе трымаць. Прывозіш у гарадскую бальніцу, яны адпраўляюць ва ўчастковую. Тыя, у сваю чаргу, таксама адсылаюць.

**Ніна Самаль**, старшы фельчар:

— Людзям нашай прафесіі неабходная трываласць. За дзень бываем на 12—14 выкліках. Калі ў вёсках не даехаў да хворага, тады па інструктажы павінны да 1 кіламетра ісці пешшу. Цяжка стала працаваць з людзьмі. Яны не цэняць бясплатнай дапамогі. Часта не сустракаюць, і даводзіцца па 5 хвілін у дзверы грукаць. Але горш за ўсё, калі няма шыльдачак з назвамі вуліц і нумарамі дамоў. Цяжка шукаць.

**Вікторыя Безялянская**, фельчар:

— Часта мы выязджаем да тыпаў нападпітку, якія не толькі абражаюць, але могуць пабіць. Нашыя звароты ў міліцыю дарэмныя. Ніхто з нас не імкнецца да канфліктаў. Усё адно, кожная скарга — на карысць хворага. Яшчэ крыўдна, што некаторых з высокапрафесіянальных урачоў, якія ратавалі і выратоўваюць сотні жыццяў, не шануюць ні людзі, ні кіраўніцтва. Гэта **Леанід Спорыш**, **Андрэй Захаркевіч**, **Іван Лыско**, **Тамара Чарнякова**, **Галіна Заяц** і іншыя.

**Алена Шарох**, фельчар:

— Для нас галоўнае — гэта хутка рэагаваць у экстрэмальных умовах. Безумоўна, адчуваеш вялікую радасць, калі выратуеш чалавека. Але ж і адказнасць таксама вялікая.

**Наталля Леванoвіч**, фельчар:

— Першыя гады працуеш на адным энтузіязме. Потым прывыкаеш да грубіянства людзей, якія лічаць, што ўсе ім вінаватыя. Вось 6 студзеня былі ў Ласях. У хаце ішла папойка, і жанчына атрымала траўму груднoй клеткі. Мужчыны ўвесь час камандавалі, як нам сябе паводзіць, і нават не дапамаглі данесці пацярпелую да машыны.

Усе мы ў незвычайных сітуацыях паводзім сябе паразному: нехта крычыць і лаецца, іншы плача і маўчыць. Але калі набіраеш "03", ведаеш, што абавязкова дапамогуць. Дык няўжо ж за гэтую дапамогу можна дзякаваць грубасцю? Сумна, што многія так і робяць.

**Вольга ПІЛІПЕНКА.**

## Рэпертуар на люты

### Мінскі абласны драматычны тэатр



**Ранішнія спектаклі**

| | |
|---|---|
| **1 пятніца** 12-00 | **"Чарадзействы ў краіне Оз"** (казка-канцэрт) Галіна Булыка |
| **6 серада** 12-00 | **"Мымрык"** (казка-жарт для дзяцей і бацькоў) Валянцін Афонін |
| **8 пятніца** 12-00 | **"Проста Мяфа"** (пастараль для дзяцей) Алена Палешчанкава |
| **19 аўторак** 13-00 | **"Проста Мяфа"** (пастараль для дзяцей) Алена Палешчанкава |
| **26 аўторак** 10-00 | **"Буслік супраць Кадука"** (музычная казка-трылер) Георгій Марчук |

**Вячэрнія спектаклі**

| | |
|---|---|
| **1 пятніца** 19-00 | **"Камедыя"** (камедыя ў 2-х дзеях паводле твораў К. Марашэўскага і Ф. Аляхновіча) Уладзімір Рудаў |
| **2 субота** 17-00 | **"Хочаш вер — хочаш не вер..."** (жартоўная камедыя ў 2-х дзеях) Юрый Вута |
| **5 аўторак** 19-00 | **"Вавілон"** (фантасмагарычная камедыя) Аляксей Дудараў |
| **6 серада** 19-00 | **"Вечар"** (лірычная меладрама) Аляксей Дудараў |
| **8 пятніца** 19-00 | **"Характары"** (лірычная камедыя) Васіль Шукшын |
| **12 аўторак** 19-00 | **"Чорная нявеста"** (меладрама ў 2-х дзеях) Жан Ануй |
| **13 серада** 19-00 | **"Двое на арэлях"** (балада пра каханне ў 2-х дзеях) Уільям Гібсан |
| **14 чацвер** 19-00 | "Хочаш вер, хочаш не вер..." (жартоўная камедыя ў 2-х дзеях) Юрый Вута |
| **15 пятніца** 19-00 | **"Прынц Мамабук"** (камедыя-гратэск у 2-х дзеях) Аляксей Дудараў |
| **16 субота** 17-00 | **"КІМ"** (меладрама ў 2-х дзеях) Аляксей Дудараў |
| **19 аўторак** 19-00 | **"Аўчары"** (сучасная драма ў 2-х дзеях) Вячаслаў Лапцік |
| **21 чацвер** 19-00 | **"Восем закаханых жанчын"** (сямейны дэтэктыў у 2-х дзеях) Рабер Тама |
| **22 пятніца** 19-00 | **"Білет у рай"** (антыутопія-маналог) Юлі у Эдліс |
| **26 аўторак** 19-00 | **"Апошняя ахвяра"** (меладрама ў 2-х дзеях) Аляксандр Астроўскі |

Мастацкі кіраўнік – заслужаны дзеяч культуры Рэспублікі Беларусь Мікалай Мацкевіч
Маладзечна, вул. Чкалава, 7. Тэл. каса 52417, гал. адміністратар 61732

## Наш дом – наша крэпасць

**Яшчэ адзін крок насустрач сваім кліентам – жыхарам Смаргоні – зрабілі мясцовыя камунальнікі: наладзілі выпуск механічных дзвярэй для аснашчэння імі пад'ездаў і падвальных памяшканняў шматкватэрных жылых дамоў.**

З гэтай мэтай унітарнае прадпрыемства "Жыллёва-камунальная гаспадарка" адкрыла спецыялізаваны ўчастак, на якім адмысловыя майстры з дапамогай гільяціны, лістагіба ды іншых няхітрых прыстасаванняў налаўчыліся вырабляць надзейныя дзверы. Аснашчаныя кодавым замком і аптычным вочкам, яны будуць каштаваць у межах ста долараў – значна танней, чым тыя, што прапануе гандаль. Больш за тое, РУП ЖКГ гатова ўключыць гэтую суму ў кватэрную плату і нават браць яе ў растэрміноўку на некалькі месяцаў.

Камунальная служба Смаргоні з'яўляецца адной з лепшых у вобласці і нават у рэспубліцы, пра што сведчаць перамогі ў разнастайных конкурсах. А яе кіраўнік **Браніслаў Стурліс** нядаўна атрымаў ганаровае званне "Заслужаны работнік камунальнай службы РБ".

**Віталь АЛЯКСАНДРАЎ.**

## За дрэвамі бачыць лес

**"Устойлівае кіраванне лясамі" – такую назву носіць міжнародны праект, актыўны ўдзел у якім ужо тры гады бярэ калектыў Смаргонскага доследнага лясгаса.**

Яго ажыццяўленне, па сцвярджэнні дырэктара лясгаса **Аляксандра Пахомава**, накіраванае, найперш, на вядзенне лясной гаспадаркі з экалагічным ухілам, з улікам сацыяльных і прыродаахоўных фактараў. Праектам прадугледжваецца захаванне біятопаў – адзіных у сваім родзе ўчасткаў, стварэнне зон адпачынку, разумнае выкарыстанне лясных угоддзяў у прамысловых мэтах. Апошняму якраз будзе садзейнічаць сертыфікацыя лясной прадукцыі, што таксама з'яўляецца складанай часткай праекта.

Цяпер да 60% драўніны, нарыхтаванай у Смаргонскім лясгасе, у перапрацаваным выглядзе пастаўляецца за межы краіны, у тым ліку, у Заходнюю Еўропу. Галоўнае патрабаванне пакупніка – сертыфікацыя драўніны і вырабаў з яе, што прадугледжвае рацыяналізацыю высечак зялёных насаджэнняў, адпаведнасць экалагічным патрабаванням, выключэнне эксплуатацыі работнікаў. Такая прадукцыя, натуральна, будзе аплачвацца па павышаных цэнах.

**Віталь АЛЯКСАНДРАЎ.**

## Дзень бяспекі

**МАЛАДЗЕЧНА. 25 студзеня Маладзечанская ДАІ праводзіць адзіны дзень бяспекі дарожнага руху.**

Асаблівая ўвага будзе надавацца выкананню патрабаванняў правілаў дарожна-транспартнага руху вадзіцелямі і пешаходамі.

**Уладзімір ЛУКАШЫК, інспектар па адміністрацыйнай практыцы ДАІ Маладзечанскага ГРАУС.**

# Мужчынская справа – кароў даіць

**Мядзел. Яўген Русак зрабіў маленькую сенсацыю: малады хлапец (крыху за дваццаць год мае) надаіў малака больш за ўсіх у раёне.**

Тым самым змяніў уяўленне пра тыпова жаночыя прафесіі. Але жанчыны з яго фермы ( «Брусы» СГП імя Максіма Танка) за гэта, пэўна, на хлопца не крыўдуюць і працу маладога даяра ацэньваюць так: «Без Жэнькі мы прападзем».

Яўген як і даўней, лічыць, што карова – гэта другая маці. З імі ён мае справу з дзяцінства: з бабуляй-даяркай хадзіў на ферму, а ўжо ў класе чацвёртым колькі дзён давялося папрацаваць – замяняў захварэўшую даярку. Часта на ферму завітваў, а пасля школы прыйшоў сюды і працаваць. Парабіў два гады – прызвалі ў армію. Дык паверыце, ён лісты адтуль не толькі дахаты пісаў, а і на ферму – пытаўся, як там яго рагулі маюцца! А з войска вярнуўся – і праз некалькі дзён даглядаць іх прыйшоў.

**– Колькі гадзін на ферме праводзіш?**

– Неяк ужо і не лічу. Пакуль жа работу не зробіш – усё роўна не пойдзеш.

**– Вось ты раніцай прыходзіш, як каровы цябе сустракаюць?**

– Яны ўжо ведаюць, праз якія дзверы я буду ўваходзіць. Пачынаюць падымацца, голас падаюць.

Блізу пяцідзесяці кароў Яўген даглядае.

**– А не цяжка з імі ўпраўляцца?**

– Прывык ужо. Жанчыны могуць, а я што – не змагу?

А мянушкі сваім рагулям выбірае, каб і прыгожыя былі,



Яўген Русак. Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

і па характары падыходзілі. Падабаецца чытаць кнігі з міфамі, па гісторыі, дык адсюль і Клеапатра, Венера з'явіліся. Дарэчы, апошняя сярод любіміц у хлопца.

– Разумная, ласкавая, любіць мяне прычасаць. Толькі пачнеш апарат падключаць, павернецца, лізаць пачынае – такую прычоску навядзе!

Бачна, што яго, Яўгенава, справа – кароў даіць. Падабаецца гэта – і ўсё. Адно засмучае, што амаль без выхадных даводзіцца працаваць. Цяжкавата так. А дома яшчэ і гаспадарка ладная, дзе на яго ўся надзея. Так што і тэлевізар той рэдка ўдаецца паглядзець. Кніжку калі пачытае, а яшчэ любіць выпечкай заняцца. І на ферму прыносіць пачаставацца піражкі, хрушчы.

**– Яўген, моладзь заўсёды надта горад прыцягвае. Ты як?**

– Пэўна, я не змог бы там жыць: балконы маленькія.

**– Не зразумеў...**

– А дзе ж я на такіх маленькіх жыўнасць сваю пасялю...

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

■ СПАЖЫВЕЦКІЯ КЛОПАТЫ

# Дапамажыце Радзівону

**МАЛАДЗЕЧНА. Рост – 184 сантыметры, вага – 78 кілаграмаў, размер нагі – 49-50.**

Вы думаеце, гэта баскетбаліст NBA? Не, гэта вучань Чысцінскай сярэдняй школы **Радзівон Карповіч**, якому 29 студзеня споўніцца 15 год.

Для такога ўзросту вялікі рост і прыгожы выгляд – увага дзяўчат, а вось з абуткам – праблема. Сёлета Радзівон ходзіць у асенніх туфлях, таму што чаравікі не знайшлі. Яго маці, **Людміла Карповіч**, расказвае:

– Красоўкі яшчэ можна купіць, а астатні абутак – цяжка. Калі ездзілі на Лебядзіны за туфлямі, давялося ісці на радыёкропку і прасіць, каб прынеслі 49–50 размер. Дзякуй Богу, адгукнуліся два гандляры.

Сапраўды, у 12 магазінах у Маладзечне, дзе ёсць мужчынскі абутак, такіх размераў не знайшлося. У "Віленскім шляху", магазінах "Алена" і "Мода", гандлёвым доме "Няміга-Маладзечна" прапанавалі самы вялікі размер – 46. На рынку ад пытання: "Ці ёсць у вас 49–50 размер?" – вочы гандляроў рабіліся круглыя, і прадаўцы прасілі паказаць гэтага хлопца.



Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.

Радзівон Карповіч, які носіць абутак 50-га размеру.

Маці з сынам не спынілі пошукаў. Паехалі ў Мінск, там таксама няма. Тады звярнуліся да шаўца, але прапанаваныя мадэлі былі настолькі груба пашытыя, што малады хлопец адмовіўся хадзіць у кірзавых ботах.

Праз тры гады Радзівон пойдзе ў армію.

Ці ёсць там боты такіх памераў? З такім пытаннем я звярнулася да кіраўніка 2-га аддзялення Маладзечанскага ваенкамата **Валянціна Арэхава**.

– У нас няма такіх ботаў, але калі будзе неабходна, зробім па індывідуальным заказе. Я думаю, што да 18 год у хлопца разаўецца плоскаступнёвасць трэцяй ступені, і ён не пройдзе камісію.

Пакуль **Элвісу Прэслі** (так яго завуць сябры) толькі чатырнаццаць, але ўрачы гавораць, што ў хлопцаў нага расце да 21 года.

У канцы студзеня знаёмая павінна прывезці з Германіі боты 50–52 размеру, а каштуюць яны 160 долараў. Для сям'і гэта вялікія грошы, але ж ад такіх маразоў асеннім абуткам не выратуешся. Добра, што Радзівон, хаця і крыўдзіцца на вытворцаў абутку, не сумуе.

– Я ўжо звыкся з адказам "няма". Затое добра гуляць у баскетбол: адзін раз на нагу каму-небудзь наступіш, другі – не падыдуць. Галоўнае, каб былі грошы, тады будзе і абутак.

Ёсць надзея, што летні абутак знойдзе яго родная сястра **Арына**, якая жыве ў Маскве.

Можа, у вас ёсць прапановы, як дапамагчы Радзівону, бо ягоную маці будучая зіма ўжо палохае. Пішыце або тэлефануйце.

**Вольга ПІЛІПЕНКА.**

## Курсы валют НБ РБ

| | 17 студзеня | 24 студзеня |
|---|---|---|
| Долар | 1617,00 руб. | **1627,00** руб. |
| Літ | 404,30 руб. | **406,83** руб. |
| Расійскі рубель | 53,05 руб. | **53,24** руб. |
| Злоты | 395,50 руб. | **395,67** руб. |
| ЕЎРА | 1424,42 руб. | **1442,01** руб. |

**"Вулічныя" курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 1650 – 1670 руб. | **1670 – 1700** руб. |

## Маладзечна. Цэны ў сераду на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 16.01 | 23.01 |
|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі, 1 кг | 2600 | **2600** |
| Кілбаса с/вялен., 1 кг | 8500 | **9500** |
| Сасіскі, 1 кг | 4400 | **3950** |
| Селядзец, 1 кг | 2100 | **2100** |
| Рыс, 1 кг | 600 | **600** |
| Грэчка, 1 кг | 480 | **520** |
| Цукар, 1 кг | 720 | **715** |
| Алей, 1 л | 1550 | **1550** |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1200 | **1200** |
| Маянэз, 200 г | 320 | **320** |
| Кава "Пеле", 100 г | 1800 | **1800** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 580 | **600** |
| Соус там. «Мінскі», 0,5 л | 550 | **600** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 500 | **500** |
| Капуста, 1 кг | 300 | **500** |
| Лімоны, 1 кг | 1800 | **1800** |
| Апельсіны, 1 кг | 1600 | **1600** |
| **Сялянскія прадукты** | | |
| Смятана, 1 л | 1400 | **1000** |
| Масла, 1 кг | 3000 | **3000** |
| Тварог, 1 кг | 1200 | **1500** |
| Малако, 1,5 л | 600 | **500** |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1400 | **1500** |
| Бульба, 1 вядро | 2500 | **2600** |
| Морква, 1 кг | 1000 | **800** |
| Яблыкі, 1 кг | 750 | **650** |

# Рынкавае мастацтва

**МАЛАДЗЕЧНА. Калі вы купіце карціну на калгасным рынку і пажадаеце вывезці за мяжу, вам не дазволяць. Трэба спачатку прайсці экспертызу ў Мінску, якая вызначыць яе каштоўнасць для нашай краіны.**

Таму іншаземцам лепш цікавіцца мясцовым мастацтвам у музеях ці на рынку, дзе ёсць выстаўка-продаж. Яе ствараюць каля 15 мастакоў, некаторыя з якіх гандлююць ужо 12 год.

Вось што гаворыць мастак **Станіслаў Градзюшка**, які працуе 8 год:

– Мы выстаўлялі свае работы на фестывалях і кірмашах. Спрабавалі заняць гарадскі парк, але там няма дзе ўладкавацца. На рынку больш народу. Каму падарунак патрэбны, а хтосьці павесіць карціну замест дывана.

Прыязджаюць на маладзечанскі рынак і з іншых мясцін. Напрыклад, мастак **Фёдар**.

– Я з Радашковічаў. Тут працую 2 з паловай гады. Ля рынку больш верагодна, што купяць. Вось і сёння рулетку з сабой узяў, мой талісман, які прыцягвае пакупнікоў.

Фёдару падабаецца творчасць мастака з Расіі **Барыса Валежыа і Аляксандра Ісачова** з Рэчыцы. Ён таксама спрабуе пісаць у іх стылі. Але больш купляюць нацюрморты, авангардныя работы – на аматара.

Вось некалькі парад мастакоў, як выбраць карціну.

**Іван Кавалевіч** з вёскі Брылькі (Валожынскі раён):

– Глядзіце на фарбы, якімі намаляваная карціна. Лепшыя – гэта алейныя "Ленінградскія". Палатно павінна быць ільняное, інакш фарбы будуць жаўцець. Рамкі лепш браць багетавыя, а сапраўдная каштоўнасць – бронза.

**Вацлаў Сакалоўскі** з Маладзечна:

– Карціна павінна адпавядаць фону кватэры. Лепш выбіраць пастэльныя (светлыя) колеры, бо яны супакойваюць. Сёння больш цэняцца шматслойныя карціны. Звярніце ўвагу і на адваротны бок: калі фарбы праяўляюцца – дрэнная грунтоўка.

Дарэчы, на адваротах карцін Вацлава Сакалоўскага напісаныя яго вершы.

У выпадку абсыпання фарбы, сціскання палатна, калі рамка патрэскалася, карціну можна вярнуць. А калі вы доўга выбіраеце і нічога не падабаецца, то зрабіце заказ. За тры тыдні атрымаеце карціну 50х70, якая каштуе 75 тысяч рублёў.

**Вольга ПІЛІПЕНКА.**

## Нядоўга крэсла пуставала

**АСТРАВЕЦ**. На гэтым тыдні стала вядома, што ў Астравецкім райспажыўтаварыстве прызначаны новы старшыня, бо цяпер ужо былы старшыня **Юрый Кацнельсон** з'яўляецца кіраўніком аддзела знешніх сувязяў Белкаапсаюза.

Пасаду старшыні Астравецкага райспажыўтаварыства заняла **Міраслава Блашкевіч**.

Да прызначэння яна працавала дырэктарам аптова-гандлёвай базы на станцыі Гудагай.

**Аддзел інфармацыі «РГ».**

# Другі фестываль недзяржаўнай прэсы



Журналісты – уважлівыя гледачы. Падчас прэзентацыі прэсы.

Фота Віталя ГІЛЯ, «Газета Слонімская».

У мінулую пятніцу у Мінску у Доме ветэранаў прайшоў другі фестываль недзяржаўнай прэсы, арганізаваны Беларускай асацыяцыяй журналістаў і Фондам развіцця рэгіянальнай прэсы. Сярод амаль шасці дзесяткаў прадстаўленых недзяржаўных сродкаў масавай інфармацыі былі "Рэгіянальная газета" і "Новая газета Сморгони". Гэтыя газеты пакуль што адзіныя рэгулярныя прафесійныя недзяржаўныя выданні, якія выходзяць у нашым рэгіёне.

Галоўны рэдактар "Рэгіянальнай газеты" **Аляксадр Манцэвіч** падчас фестывалю быў адзначаны прэміяй Фонду развіцця рэгіянальнай прэсы ў намінацыі "За вернасць", як прадстаўнік выдання, на працягу свайго існавання вернага беларускай мове.

Дыпломамі Беларускай асацыяцыі журналістаў "За адданасць прафесіі" былі ўзнагароджаныя рэдактар аршанскай газеты "Куцейна" **Віктар Андрэеў**, фотакарэспандэнты **Уладзімір Кармілкін** (Мінск) і **Дзмітрый Ягораў** (гродзенская газета "Биржа информации"), галоўны рэдактар закрытай уладамі газеты **Мікола Маркевіч** і журналіст гэтага ж выдання **Павел Мажэйка**.

Сярод ушанаваных быў таксама народны паэт **Ніл Гілевіч**. Ён быў адзначаны за шэраг публіцыстычных вершаў, апублікаваных у "Народнай волі".

На фестывалі прысутнічалі вядомыя палітыкі **Станіслаў Шушкевіч**, **Вінцук Вячорка**, **Міхаіл Чыгір**, **Васіль Лявонаў**, **Анатоль Лябедзька**, дыпламаты.

Першы фестываль недзяржаўнай прэсы Беларусі прайшоў у канцы 2000 года.

**Мікола ГАЙДУК.**

■ НАШЫ ПРАВЫ. МЕРКАВАННЕ

# Калі парушаюцца правы

У Астравецкім раёне няма патэнцыяльных магчымасцяў для стварэння добрага клімату для рэалізацыі канстытуцыйных гарантый у галіне правоў чалавека. Чыноўнікі і на сённяшні дзень у раёне пільна ахоўваюць свае і ўладныя інтарэсы. Гэта ў іх атрымліваецца дзякуючы мясцовым праваахоўным органам, якія ў нейкай ступені ім садзейнічаюць. Аднак насельніцтва ў раёне з цяжкасцю пачынае верыць у свае магчымасці і паступова знаходзіць у патрэбнай сітуацыі літару закона.

Чыноўніцкая самавольства і шматлікія парушэнні, дапушчаныя імі пры рашэнні сацыяльных пытанняў чалавека, не сустракаюць у жыхароў раёна шырокага асуджэння. Многія абставіны сведчаць пра нізкую прававую граматнасць насельніцтва, няведанне элементарных палажэнняў заканадаўства і нарматыўных актаў.

Аналізуючы звароты грамадзян па юрыдычную кансультацыю і дапамогу ў прадстаўніцтва "Беларускі Хельсінкскі Камітэт" па Астравецкім раёне, можна ўбачыць, што колькасць іх павялічылася ў апошнія гады.

У прадстаўніцтва БХК звярнуўся жыхар Астраўца **Алег Грынкевіч**, са скаргай на незаконныя дзеянні работнікаў міліцыі па яго затрыманні і пакаранні. 28 сакавіка 2001 года работнікамі міліцыі на яго быў складзены адміністрацыйны пратакол за кіраванне асабістай аўтамашынай быццам бы ў нецвярозым стане. А. Грынкевіч быў дастаўлены работнікамі міліцыі ў медустанову, дзе ўрачы па патрабаванні міліцыянераў, не маючы на тое законных падстаў, зрабілі адбор пробаў крыві і аналіз мачы. Для абароны гонару і годнасці, кампенсацыі маральнага ўрону мы аказалі прававую дапамогу, і праз 5 месяцаў цераз судовыя інстанцыі яму было вернутае вадзіцельскае пасведчанне і ануляваны штраф. Такім чынам, з вялікай цяжкасцю была адноўленая законная справядлівасць. Высветлена, што работнікі міліцыі ў названай справе былі асабіста зацікаўленыя ў пакаранні, а не ў законнасці пры прыняцці рашэння.

Другі факт. У прадстаўніцтва БХК звярнулася грамадзянка **Галіна Прошкіна**, жыхарка раёна, з просьбай аказання юрыдычнай дапамогі. Так, 23 мая 2001 года яна па сфабрыкаваным адміністрацыйным пратаколе была прыцягнутая да адказнасці за дробнае хуліганства. Суддзёй раёна **Аляксандрам Дужыкам** была вынесеная пастанова аб накладанні адміністрацыйнага штрафу. Пасля падачы скаргі на пастанову суда ў Гродзенскі абласны суд, апошні рашэнне суддзі Астравецкага суда адмяніў і вярнуў справу на новы разгляд. 25 ліпеня 2001 года Астравецкі суд прыняў "саламонаўскае" рашэнне і адміністрацыйную справу спыніў, сасляўшыся на заканчэнне тэрміну прыцягнення да адміністрацыйнай адказнасці. Мы аказалі юрыдычную дапамогу ў абласным судзе.

Яшчэ факт. У прадстаўніцтва БХК па Астравецкім раёне звярнуўся грамадзянін **Сяргей Капырын**, жыхар Астраўца, ліквідатар ЧАЭС, з просьбай аб аказанні юрыдычнай дапамогі ў вырашэнні жыллёвага пытання. Грамадзянін Капырын ужо больш за 10 год з сям'ёй з 4 чалавек пражывае ў нядобраўпарадкаваным інтэрнаце, прыкладае намаганні на атрыманне жылля па льготных умовах, аднак гэтых намаганняў недастаткова. Мною было падрыхтаванае і накіраванае ў снежні пісьмо ў адміністрацыю прэзідэнта і прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь для рашэння гэтага пытання. У выніку быў атрыманы адказ аб станоўчым рашэнні жыллёвай праблемы грамадзяніна С. Капырына ў I квартале 2002 года.

Наступны факт. У снежні ў прадстаўніцтва БХК па раёне звярнуўся адзіны ў раёне Герой Сацыялістычнай Працы, ветэран працы, пенсіянер **Франц Паташкевіч**, жыхар Астраўца, з просьбай аб аказанні яму юрыдычнай дапамогі ў падрыхтоўцы заявы па паляпшэнні жыллёвых умоў. Нягледзячы на звароты Ф. Паташкевіча ў абласныя і раённыя інстанцыі, гэтая праблема не рашаецца ўжо на працягу года. Ільготы, прадастаўленыя яму, ігнаруюцца ўладамі. Напрошваецца пытанне. Чаму кіраўнікі мясцовай улады знаходзяць сродкі на будаўніцтва, набыццё катэджаў і аўтамашын з бюджэтных і небюджэтных сродкаў, а для заслужанага чалавека яны адсутнічаюць?

Прадстаўніцтва БХК па Астравецкім раёне бясплатна дапамагае людзям, гэта абсалютная праўда. Мы займаемся абаронай правоў чалавека, парушаных з боку дзяржавы, яго органаў і службовых асоб, у першую чаргу, прадстаўнікоў улады.

Змагацца за свае правы не толькі можна, але і абавязкова. І многае залежыць ад самога чалавека. Пры неабходнасці звяртайцеся па адрасе: Астравец, вуліца Валадарскага, 45/38, тэл. 21993, Крук Іван Фёдаравіч.

**Іван КРУК, Астравец.**

# З сям'і Сыраквашаў

**Імя Дзмітрыя Сыраквашa носіць вуліца ў Жодзіне. У горадзе аўтамабілебудаўнікоў памятаюць гэтага мудрага і чулага чалавека, які кіраваў БелАЗам, быў дэпутатам Вярхоўнага Савета, калі Беларусь набывала суверэнітэт. А ў Куранцы і да гэтага толькі добрае можна пачуць пра Сыраквашаў. Сына і бацьку.**

Мы часта заходзілі ў прыгожы дом Сыраквашаў. З прахалоды веранды бабуля ішла ў пакой, які вокнамі ўглядаўся ў задуменны сад. Бабулю ветліва сустракаў сівабароды дзед **Аляксей**. А мяне ягоная нявестка, прыгажуня цётка **Соня**, вяла ва ўтульны дзіцячы пакой. Тут бібікалі з аўтамабільчыкамі на пару год меншы за мяне **Міца** і зусім малы яшчэ **Юра**. Я далучаўся да іх. – Мне б столькі! – зайздросціў я, гледзячы на вялізныя паліцы з кніжкамі ў кожным пакоі.

### Ці стануць беларусы грудзьмі за такую ўладу?

Жытнім жнівом 1939 года мы з дзядзькам **Іванам Горыдам** звозілі ў Сыраквашаў ток снапы. Дзядзька расказваў:

– Сыраквашы – самыя паважаныя ў Куранцы. Дзед Аляксей – фельчар. Лечыць і людзей, і жывёлу. Дапамога, не адкажа нікому. А яго сын **Іван** – старшы над млынамі: бухгалтар-рэвізор.

Падышоў да нас 34-гадовы Іван Аляксеевіч. Ён ніжэйшы за дзядзьку, але такі ж мажны і чырванашчокі. Яго размова вельмі зацікавіла мяне:

– Вось вы, Горыды, чаму на заработкі ў замежжа вымушаныя ездзіць? Таму што на ўвесь Куранец адзін завод Жукоўскага. А чаму адзін? Таму што як былі неабсяжныя абшары ў памешчыкаў, так і засталіся. Тысячы гектараў зямлі праваслаўнай царквы ўрад раздаў польскім асаднікам. А бедныя сяляне не могуць купіць прамысловыя тавары, таму заводы і не будуюцца. Выйсце адзінае: будыня фермерскія гаспадаркі. Як у ЗША. У нашых жа сялян ніякай надзеі на лепшае.

– Так-так, – згаджаецца дзядзька Іван ды хваліцца мною: – Лепшы вучань, перайшоў у другі клас, а ўжо чытае на чатырох мовах! А скончыць 7 класаў – і ўсё... Вы сваіх, магчыма, у Вільню ці Варшаву на універсітэт уладкуеце?

– А кім яны стануць пасля? Палітычнымі вязнямі! Яны ж, адукаваныя, змагацца стануць за волю народа. Бо забараняецца беларуская мова ў школах, на ўстановах. Мова народа! Вось-вось можа ўспыхнуць вайна з Нямеччынай. Вашага **Пятруся**, брата, зноў у войска ўзялі. А ці стануць пакрыўджаныя беларусы грудзьмі за такую ўладу?

### За агентурную дзейнасць – у лапы СМЕРШа?

Праз пару тыдняў Нямеччына напала на Польшчу. Ад 17 верасня Куранец кіпеў шумнымі натоўпамі мітынгуючых. Чакаў сваіх, якія дадуць волю і зямлю.

З прыходам бальшавікоў спачатку ўсё знікла з крамаў. Затым пачалі знікаць людзі. Эшалонамі. За любое няўгоднае слова – турма. Зямлю сяляне так і не атрымалі.

Іван Сыракваш працуе бухгалтарам вілейскай абласной "Сялянскай газеты". Не-не, ды ўздрыгваў ад думкі, што і ён можа трапіць на бязлітасны канвеер расправы. Жахлівы ранак 22 чэрвеня 1941 года... Іван Аляксеевіч скалануўся ад жудаснай весткі: Нямеччына напала на СССР.

– Першы год акупацыі ён працаваў рэвізорам млыноў, – расказваў Пятрусь Горыд. – Падтрымліваў сувязь з партызанамі. Па іх заданні згадзіўся працаваць бургамістрам Куранецкай управы.

Колькі людзей ён выратаваў ад непазбежнай смерці! На нашу сям'ю данеслі летам 1943 года, што ўвосень 1942 года мы хавалі яўрэяў у час іх знішчэння ў Куранцы. Бургамістр Сыракваш вырваў нас тады з кіпцюроў пагібелі. Дапамог уратавацца і вясной 1944 года, калі за сувязь з партызанамі фашысты асудзілі нашу сям'ю на спальванне жывымі. А колькі ён выканаў небяспечных заданняў партызан!

Напачатку чэрвеня 1944 года ён папярэдзіў нашыя сем'і пра тое, што немцы нас арыштуюць. Мы ўцяклі ў партызанскую зону. У канцы чэрвеня начальнік разведкі загадаў дзядзьку Пятрусю вывесці сям'ю Івана Сыракваша да нас у вёску Даўбарова, дзе мы знайшлі прытулак у партызан. Значыць, высока цанілі партызаны ўклад Івана Аляксеевіча ў барацьбу з захопнікамі.

Пасля вызвалення Беларусі ад акупантаў І. Сыракваш уладкоўваецца бухгалтарам Куранецкага ляспрамгаса. Але восень 1944 года ашаламіла жудаснай весткай: Івана Аляксеевіча пасадзілі. Яму адмералі дзесяцігоддзе лагернай жудасці. Несправядліва. Вераломна.

Чарговая сустрэча з Іванам Аляксеевічам адбылася ў канцы 50-х у дзядзькі Мікалая Горыда. Сорамна было за дзяржаву, якая нанесла беспадстаўную крыўду такому чалавеку. Балюча рэзала сэрца горыч яго адчаю. Гэта, на вялікі жаль, была апошняя сустрэча з Іванам Аляксеевічам.

Значна пазней улады прызнаюць незаконнасць яго пакарання, і ён будзе рэабілітаваны.

### Змітра Іванавіч «за рулём» БелАЗа

Бязмежнае гора абрынулася на сям'ю Сыраквашаў пасля арышту Івана Аляксеевіча. У Соф'і Людвігаўны на руках – двое дзяцей ды дзед Аляксей. Душыла крыўда за несправядліва абвінавачанага мужа.

Радавалі дзеці: працавітыя, дружныя, добрасумленныя. У той сям'і яны не маглі быць іншымі.

– Міца быў лепшы вучань па ўсіх прадметах, – успамінае яго аднакласнік **Мікола Бічун**. – Ні хвіліны не губляў дарма. Пастаянна працаваў з падручнікамі або з кнігамі, якія ён чытаў сотнямі.

Другі яго аднакласнік, **Генадзь Гардзей**, зазначае:

– Міца заўсёды знаходзіў арыгінальныя рашэнні складанейшых матэматычных задач, якія не прыходзілі ў галаву нават настаўніку. Мы з ім адначасова паступалі і вучыліся ў Беларускім політэхнічным інстытуце, цяперашняй Акадэміі. Поспехі ў вучобе ён меў бліскучыя.

Птушкай незваротнай праляцела нялёгкае юнацтва.

Спаткаліся мы са Змітрам Іванавічам на школьным вечары сустрэчы выпускнікоў у 1970 годзе. Быў ён тады галоўным тэхнолагам БелАЗа. Затым узначаліў гэты флагман нашай рэспублікі. Праз сяброў і агульных знаёмых падтрымлівалі сувязі. Марылі, вось выйдзем на пенсію – будзем сустракацца.

– Падчас курсаў павышэння кваліфікацыі нас вазілі на БелАЗ, – працягвае Генадзь Гардзей. – Пра дырэктара работнікі завода гаварылі з вялікай павагай і гонарам. Адчувалася, што меў Змітра Іванавіч высокі аўтарытэт у шматтысячным калектыве.

Высокая якасць звышмагутных беларускіх самазвалаў атрымала сусветную вядомасць. І ў гэтым вялікая заслуга Змітра Іванавіча, якому даваліся жыць і працаваць з болем крыўды за несправядлівую расправу над бацькам. Такія раны не рубцуюцца і не забываюцца.

У канцы 80-х гадоў пад нагамі кіраўнікоў камуністычнай дыктатуры небяспечна завагалася глеба. Тады яны пачалі запрашаць Змітру Іванавіча да тэлеэкрана, каб ён удзельнічаў у прыхарошванні Саюза, які стагнаў ад бязладдзя і трашчаў па швах. Уяўляю, як цяжка было яму нават дыхаць адным паветрам з кіраўнікамі той партыі, якая так люта зламала лёс яго бацькі. І ён не спяшаўся кідаць ім выратавальныя кругі і, больш за ўсё, адмоўчваўся.

Раптам цяжкая вестка: перастала біцца сэрца Змітры Іванавіча. Жодзінская зямля, на якой так бліскуча расквітнеў незвычайны талент кіраўніка БелАЗа, прыняла яго на вечны спачын. Беларусь страціла вернага сына, гарачага і сумленнага патрыёта.

А мы, віляйчане, ганарымся тым, што ў нашым краі ягоны талент набіраўся сілы для магутнага ўзлёту.

Ад незабыўнай крыўды даўно пакінулі Сыраквашы Куранец. І я праходжу міма іх прыгожага дома.

**Аляксандр НАРКЕВІЧ.**

■ МІЖСЕЗОННЕ

# Каму ў Магілёў, а каму і ў Гродна

**Кантрольныя матчы**

**18.01 Маладзечна-2000 – Славія (Мазыр) 1:3 (1:2).**

Галы: Мігас (52); (28), (45), (101).

Стайкі, манеж, склады 9*9, час 2*55, замены неабмежаваныя.

**Маладзечна-2000**

Галкіпер **Віталь Сцепановіч** ездзіў на прагляд у "Пльзень" (Чэхія, Д2). Вярнуўся з нявызначанымі перспектывамі. А **Аляксандру Багайчуку** "Нафтавік" (Ахтырка, Украіна, Д2) прапанаваў падпісаць кантракт.

Каманда возьме ўдзел на турніры ў Магілёве з 31-га студзеня па 2-га лютага. У адзін круг згуляюць, акрамя маладзечанцаў, гаспадары з "Дняпра-Трансмаша", гродзенскі "Нёман-Белкард", а таксама адна расійская каманда – ці то "Крышталь" (Смаленск, Д2), ці то "Арол" (Д3).

**Дубль**

Як мы паведамлялі на мінулым тыдні, некалькі футбалістаў працуюць разам з асновай. Няма на трэніроўках **Аляксея Відрука**, ад паслуг якога пакуль адмовіліся. Наўрад ці сёлета будуць выступаць за прафесійныя каманды **Аляксандр Мароз** (ён цяпер гуляе ў міні-футбол за БДПА), **Мікалай Татун** (служыць у арміі), **Аляксандр Чарнель** і **Аляксандр Грыхуцік**.

Далучылася да дубліруючага складу група футбалістаў 1984-га года нараджэння, што летась выступалі за ДЮСШ на "Хрустальным мячы" (былі сярод аўтсайдэраў).

Як заўсёды, **Аляксандру Гармазе** дапамагае ў трэнерскай справе **Андрэй Найдзіч**. Прычым цяпер, у адрозненне ад мінулага сезона, ён афіцыйна ўваходзіць у штат маладзечанскага клуба.

**Смаргонь**

Навічок першай лігі прыступіў да заняткаў 10-га студзеня. Пакуль каманда ў Смаргоні, з 1-га па 19-га лютага будзе на зборах ў Лідзе, адкуль з 10-га па 16-га лютага выязджаць на турнір у Гродна, які пройдзе на прызы абласнога ўпраўлення па ФКСіТ. Там мяркуецца ўдзел усіх мацнейшых каманд вобласці: гродзенскі "Нёман-Белкард" з вышэйшай лігі, "Ліда", слонімскі "Камунальнік", мастоўскі "Нёман" з першай лігі. Магчымы ўдзел добрых каманд з-за межаў Гродзеншчыны. Да турніру спарынгаў пакуль не прадбачыцца, а вось у сакавіку каманда будзе імкнуцца як мага часцей некуды выязджаць на матчы.

У Ліду мяркуецца ўзяць пашыраны склад з 24 футбалістаў, з якіх адабраць для наступнай падрыхтоўкі да чэмпіянату краіны 20-22 чалавекі. З-за сур'ёзнай хваробы не будзе ўжо ў складзе **Андрэя Пагоцкага**, відаць, не змогуць выступіць за каманду на новым, прафесійным (цяпер па рэгламенце і клубы першай лігі павінны абавязкова заключаць кантракты з гульцамі) узроўні **Віталь Відук**, **Сяргей Якубіцкі** і **Дзмітрый Шагойка**. Наогул плануецца больш увагі надаваць маладым футбалістам, каб нагуляць склад на бліжэйшыя два-тры сезоны. Цяпер займаюцца з камандай **Сяргей Кадол** (летась правеў 1 матч за "Смаргонь", потым гуляў за мінскі СКАФ, Д3), **Сяргей Сілін** з "Рудзенска" (Д3) і **Валерый Ціханенка** з "Рагачова" (каманда пакінула першую лігу).

Адбыліся змены адміністрацыйнага складу. Начальнікам каманды стаў **Аляксандр Лобан**, былы варатар многіх смаргонскіх каманд. Ён замяніў **Сяргея Новіка**, які таксама пакінуў пасаду супрацоўніка аддзела па ФКСіТ і паехаў са Смаргоні. Масажыстам будзе яшчэ адзін былы футбаліст каманды **Рыгор Гакуць**.

Асаблівых задач на гэты сезон не ставіцца. Зразумела, што смаргонцы павінны замацавацца ў лізе, не быць «хлопчыкамі для біцця». Каманда ўтрымліваецца за кошт бюджэтных сродкаў раёна, таму абавязаная радаваць гульнёй сваіх прыхільнікаў, даказваць, што не задарма на яе трацяцца грошы, якія маглі б пайсці настаўнікам і ўрачам. Так што гуляць смаргонцы будуць імкнуцца на максімуме магчымасцяў.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

**Табло**

■ «РГ»-СТАТЫСТЫКА

## «Маладзечна-2000»: кубкавая статытыка

**30 матчаў, 16 перамог (з іх адна ў дадатковы час), 3 нічыі (двойчы прабіваліся пасляматчавыя пенальці і абодва разы перамагалі маладзечанцы), 11 паражэнняў (з іх два ў дадатковы час), розніца галоў 52-38 (без уліку пасляматчавых пенальці).**

Маладзечанцы за свае першыя восем удзелаў у розыгрышах Кубка краіны толькі аднойчы не прабіліся ў чвэрцьфінал (лепшыя дасягненні ўстаноўленыя ў першым і трэцім розыгрышах, калі выходзілі ў паўфінал). На жаль, апошнія тры паходы за Кубкам завяршаліся на першым жа сапернiку.

**Выступленні на розных стадыях:**

1/32 ........ +0=0-1 ........ 0-1
1/16 ........ +7=0-0 ........ 22-4
1/8 .......... +5=2-3 ........ 17-14
1/4 .......... +4=0-5 ........ 10-12
1/2 .......... +0=1-2 ........ 3-7

Найчасцей (тройчы) сустракаліся з мінскім "Дынама" (+1=0-2 3-5), віцяблянамі (+2=0-1 3-3) і "Шахцёрам" (+2=1-0 3-1).

**Матчы:**

1. Лебедзеў ...................... 24
2. Казяк .......................... 19
3. Вяжэвіч ....................... 17
4. Лукашэнка ................... 15
5. Клімовіч ...................... 14
6. С. Кабельскі ................ 13
7-8. Каўтуноўскі ............. 12
7-8. Лукін ........................ 12
...
25-33.Д. Кабельскі ......... 5
25-33. Міхалёў ................ 5

**Галы:**

1. Лукін ........................... 7
2. Вяжэвіч ........................ 6
3. Бараноўскі ................... 5
4-6. Лабанаў ..................... 3
4-6. Падрэз ....................... 3
4-6. Тарасевіч .................... 3
...
12-25. Міхалёў ................ 1
12-25. Турчыновіч .......... 1

**Парушэнні (папярэджанні + выдаленні):**

1. Вяжэвіч ...................... 4+1
2. Казяк ......................... 2+1
3. Каўтуноўскі ............... 0+1
4. Лебедзеў ..................... 4+0
5. С. Кабельскі ............... 3+0
...
10-21. Муравейнікаў ...... 1+0
10-21. Турчыновіч .......... 1+0

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

**Каляндарны план Маладзечанскага турклуба «Пілігрым» на 2002 год**

| | |
|---|---|
| 1. Першынство сярод паходаў 1 катэгорыі складанасці за 2001 г. | студзень |
| 2. Конкурс на самага актыўнага карэспандэнта па прапагандзе спартыўнага турызму | 23.01 |
| 3. Удзел у рабоце абласной федэрацыі турызму | па плане ўпраўл. |
| 4. Правядзенне абласнога першынства сярод паходаў 1–3 катэгорыі складанасці за 2001 г. | люты |
| 5. Удзел ў зімовым рэспубліканскім злёце | студзень-люты |
| 6. Удзел у абласных спаборніцтвах па тэхніцы лыжнага турызму | 2–3.03 |
| 7. Удзел у абласных спаборніцтвах па тэхніцы воднага турызму | красавік |
| 8. Удзел у абласных спаборніцтвах па тэхніцы пешага турызму | красавік |
| 9. Удзел у рэспубліканскім злёце прыхільнікаў фізкультуры і здароўя | май |
| 10. Удзел у рэспубліканскім турмарафоне "100 кіламетраў за 24 гадзіны" | май |
| 11. Удзел у абласных спаборніцтвах па тэхніцы велатурызму | май |
| 12. Гарадскі турзлёт калектываў фізкультуры | 14–16.06 |
| 13. Удзел у абласным турзлёце | па плане ўпраўл. |
| 14. Сямейныя паходы па РБ, Расіі, Крыме (3 шт. аплата сут., праезду кіраўніка гр.) | сакавік-кастрычнік |
| 15. Турзлёт работнікаў гарвыканкома і іх сем'яў | 22.06 |
| 16. Удзел у рэспубліканскім веларалі "Белая Русь" | чэрвень |
| 17. Удзел у рэспубліканскім злёце "Тата, мама і я – здаровая сям'я" | 16–18.08 |
| 18. Водны паход па Карэліі (Кольскім п-ве) | ліпень-жнівень |
| 19. Адкрытыя гарадскія спаборніцтвы па тэхніцы воднага турызму памяці **Таццяны Брылевіч** | 31.08–1.09 |
| 20. Паходы выхаднога дня (аплата кіраўнікоў групы, праезду, харчавання) | студзень-снежань |
| 21. Веларалі "Маладзечанская восень" | 5–6.10 |
| 22. Вечар, прысвечаны сусветнаму Дню турызму | 28.09 |
| 23. Удзел ва ўсебеларускім злёце-памяці | верасень |
| 24. Гарадскія спаборніцтвы па тэхніцы пешага турызму | 13.10 |
| 25. Удзел у рэспубліканскім начным марафоне "Вялікая мядзведзіца" | кастрычнік |
| 26. Гарадскі вечар, прысвечаны 25-годдзю турклуба "Пілігрым" | 23.11 |
| 27. Удзел у злёце ветэранаў спартыўнага турызму РБ | лістапад |

# На вяршыні Эльбруса

У ліпені і жніўні мінулага года група турыстаў з Мінска, у складзе якой была маладзечанка **Тамара Канцавая**, зрабіла паход у раёне Цэнтральнага Каўказа. Маршрут пачынаўся з пасёлка Азау – перавал Палн-Башы – "Прытулак адзінаццаці" (4200 м) – Усходняя і Заходняя вяршыні Эльбруса (5621 м, 5642 м) – возера каля Ачкер'якольскага лававага патоку – цясніна Адылсу. На 14 дзень паходу зрабілі ўзыходжанне на абедзве вяршыні Эльбруса.

У раёне Эльбруса шмат альпіністаў і турыстаў з Чэхіі, Славакіі, Польшчы, Прыбалтыкі і Расіі. Была сустрэча і з дзвюма групамі з Беларусі. "Прытулак 11-ці", які згарэў некалькі год таму, адраманталі. Адныя суткі начлегу ў "Прытулку" каштуюць 10 долараў. І тут, на вышыні 4200 м, гандлююць свежым півам "Балтыка".

**Сяргей БЯЛКОЎ.**



На вяршыні Эльбруса.



Каменныя дзівосы.

Фота Марата КАБІРАВА.

# Кандыдаты ў майстры спорту

**Мінулы год быў напружаны для плыўцоў Маладзечанскага раёна, касцяк зборнай каманды якога складалі чысцінскія спартсмены.**

Так, каманда юнакоў з Маладзечанскай раённай ДЮСШ узяла ўдзел у першынстве Мінскай вобласці, якое праходзіла ў Барысаве. Чысцінскія хлопцы пачалі там мэтанакіраваную падрыхтоўку да летняга першынства нашай краіны сярод каманд дзіцяча-юнацкіх спартыўных школ. Лідэрам каманды ў горадзе на берагах Беразіны стаў дзевяцікласнік чысцінскай школы **Павел Грабянёк**. У плаванні на спіне ён перамог на ўсіх трох дыстанцыях: 50 метраў праплыў за 31,95 секунды, 100 м – 1.08,30 і 200 м – 2.27,57. Таксама ўпершыню выканаў нарматыў першага спартыўнага разраду. Паша разам з таварышамі па камандзе двойчы "адзначыўся" і на прызавых месцах у эстафетным плаванні. Яго аднакласнік **Дзіма Глаўдзель** таксама стаў пераможцам: 50 м вольным стылем ён праплыў за 28,30 секунды, а стометровую дыстанцыю – за 1.00,58. За свае перамогі абодва юнакі атрымалі дыпломы і памятныя прызы. Так каманда Маладзечанскай РДЮСШ выйшла на другое каманднае месца ў сталічнай вобласці. Першае месца – Салігорск, далей – Мінск, Маладзечна, Барысаў і Слуцк.

Пасля гэтай перамогі чысцінская каманда была заўважаная ў мінскім басейне "Янтар", дзе праходзіла адкрытае першынство сталіцы. Павел Грабянёк на мінскай вадзе здабыў "толькі" бронзу, а **Вікторыя Крот** і **Ірына Уласенка** перамаглі шматлікіх сталічных канкурэнтак на дыстанцыях 200 м дэльфінам і 400 м комплекснага плавання. На двухсотметроўцы брасам Ірына Уласенка была трэцяя, затое на дыстанцыях, у два і чатыры разы карацейшых, ёй удалося здабыць па "серабры". Трэцяй ў плаванні на 800 м вольным стылем стала **Вольга Тулай** з Чысці.

Затым у басейне Чысцінскай СШ адбылося чарговае першынство Маладзечанскага раёна па плавальным мнагаборстве. Гэта значыць, што кожны спартсмен павінен быў за тры дні праплыць па пяць дыстанцый. Агульная сума ачкоў за кожны вынік вызначала пераможцу спаборніцтваў асобна ў дзяўчат і юнакоў па дзвюх узроставых групах. Тут вызначыўся пяцікласнік чысцінскай школы **Кірыл Паўлавец**. У старэйшых першынстваваў сямейны дуэт – сястра і брат Глаўдзелі. Пры гэтым **Ірына** змагла абнавіць два рэкорды раёна: 50 м дэльфінам – 34,78 і на спіне – 34,70. Дзіма ўстанавіў новы рэкорд раёна і ўпершыню асіліў нарматыў першага спартыўнага разраду – 1.08,56. А адзінаццацікласнік **Дзяніс Сопіч** палепшыў раённае дасягненне пяцігадовай даўнасці на 50 м брасам – 33,86 секунды.

Перад навагоднімі святамі мацнейшых плыўцоў Мінскай вобласці сабраў шахцёрскі Салігорск. Тут адбыўся зімовы чэмпіянат Мінскай вобласці па плаванні. У кампаніі майстроў міжнароднага класа і "проста" майстроў спорту нашыя дзяўчаты не разгубіліся. **Маша Сушкевіч** двойчы падымалася на п'едэстал гонару за дыпломамі II і III ступеняў за перамогу на дыстанцыях 400 і 800 м вольным стылем. Іра Уласенка атрымала ўзнагароду за другое месца ў плаванні брасам на 50 м – 37,72. Ірына Глаўдзель стала першай з раённых спартсменак чэмпіёнкай сталічнай вобласці па плаванні сярод дарослых. Перамога ёй дасталася на кролевай дыстанцыі 50 м з вынікам 29,89 секунды. На этапе эстафетнага плавання 4х100 м вольным стылем яна ўпершыню выканала нарматыў першага спартыўнага разраду. Гэта сёмы падобны паказчык у чысцінскіх плыўцоў у мінулым годзе. Ёсць надзеі, што 2002 год будзе азнаменаваны і вынікамі кандыдатаў у майстры спорту.

**Уладзімір ЗВЕРНІК, заслужа-ны трэнер Рэспублікі Беларусь, Чысць.**



# ВІНШАВАНКІ



З 18-годдзем!
**Яўгену Ясюкевічу**

Дарагі Жэнечка, ад усяго сэрца віншуем цябе з паўналеццем! Так многа хочацца пажадаць табе ў гэты дзень, але самае галоўнае – моцнага здароўя, шчасця, шмат усмешак, блакітнага неба, ажыццяўлення ўсіх тваіх мараў. Няхай лёс пашле табе як мага больш узлётаў, а менш падзенняў. Заставайся і надалей такім добрым, мілым, ласкавым і чулым чалавекам! Мы цябе вельмі-вельмі любім!
Нам хочется, чтоб жизнь
твоя катилась,
Как ручеек меж теплых берегов,
Чтоб горе и несчастье не случилось,
Чтоб не водилось недругов, врагов.
А счастья, чтоб изведать
в полной мере.
Пусть вечно длятся и любовь, и вера,
И та дорога, что зовется жизнь.
*Мама і твае родныя.*

З юбілеем
**Веру Міхайлаўну Капуцкую**

Дарагая мамачка і бабуля!
Пусть этот день,
который ты встречаешь,
Счастливой датой в жизнь
твою войдет
И все хорошее, о чем мечтаешь,
Пусть сбудется и пусть придет.
Пусть счастья распахнутся двери
И все, что будет прожито, не зря.
Ты знай – в тебя мы очень верим
И очень любим мы тебя.
*Дачка, зяць, унукі, якія цябе моцна любяць.*



З 25-годдзем!
**Таццяне Катэнцы**

Дарагая Танечка,
віншую з днём нараджэння!
Желаю всегда и во всем успевать,
Усталости, слабости,
горя не знать.
Желаю всегда оставаться
счастливой,
Веселой, радушной,
здоровой, красивой.
*Наташа Ясюкевіч.*

Дарагую любую матулю **Зою Іванаўну Драгун** з юбілеем! Здароўя, шчасця, даўгалецця. *Дачка, сын, зяць, нявестка, унукі.*

Віншуем з днём нараджэння любімую матулю і жонку **Тамару Анатольеўну Трыпуць**! Шчасця, здароўя, поспехаў. *Родныя.*

Віншуем з днём нараджэння **Ірыну Яфімаўну Апенькіну**! Жадаем моцнага здароўя, шчасця, сямейнага дабрабыту, удачы. *Сямія Тараповічаў.*

Віншую з днём нараджэння любую дзетачку **Ірыну Станіславаўну Голуб** з в. Сугвазды! З найлепшымі пажаданнямі, *Аня!*

**І. С. Голуб.** Дарагая Ірачка, з днём нараджэння! Хочам здароўя пажадаць, кахання, радасці і шчасця. *Пакладкі.*

**Ірыне Станіславаўне Голуб.** З днём нараджэння, дарагая сястрычка! Жадаем здароўя, шчасця, дабрабыту і ўсяго найлепшага. *Станіслава, Тамара, Людміла.*

Мілая **Мартачка**! З днём нараджэння! Здароўя табе, поспехаў у вучобе, добрых сяброў, радасці і здзяйснення мараў. *Твае бацькі.*

Дарагая **Мартусечка**! Віншуем з днём нараджэння! Расці здаровая, добра вучыся. Мы цябе любім. *Твае родныя.*

**Івана Канстанцінавіча Апяцёнка** віншуем з 60-годдзем! Жадаем здароўя, даўгалецця, бадзёрасці, дабрабыту і ўдачы. *Сын Вова і яго сям'я.*

Віншуем з сярэбраным вяселлем **Мікалая Аляксандравіча і Евяліну Васільеўну Мазурай**! Жадаем вам моцнага здароўя і даўгалецця. *Сям'я Снякко.*

Віншуем маму **М. Сярпейку** з днём нараджэння! Жадаем шчасця, здароўя, поспехаў у працы. *Сыны Вадзім і Паша.*

Віншуем **Андрэя** і **Лену Гайчукоў** з 8-годдзем сумеснага жыцця! Жадаем сямейнага шчасця і кахання. *Дочкі Таня і Люба.*

**Андрэя Гайчука** віншуем з днём нараджэння! Жадаем шчасця, здароўя, дабрабыту. *Жонка Лена, дочкі Таня і Люба.*

Віншуем з юбілеем **Міхаіла Бялова**! Жадаем здароўя, шчасця, удачы, кахання. *Брат Валодзя і яго сям'я.*

Дарагога мужа і татачку **Георгія Віктаравіча Папудру** віншуем з днём нараджэння! Жадаем шчасця і здароўя. *Жонка і дочкі.*

Дарагую мамачку **Таццяну Аляксееўну Жабко** з днём Таццяны! Шчасця, здароўя. *Твая дачка Наташка.*

Дарагую сяброўку **Таццяну Панчанку** з днём Таццяны! Шчасця, здароўя, вялікага і светлага кахання. *Сяброўка Наташка.*

Любімую жоначку **Веру Міхайлаўну Капуцкую** віншую з юбілеем! Жадаю моцнага здароўя, шчасця, доўгіх год жыцця. *Муж Лёня.*

**Звярніце ўвагу**

Шаноўныя чытачы, калі вы хочаце павіншаваць знаёмых, блізкіх, то высылайце купон з разборліва напісаным тэкстам загадзя. Указвайце дату публікацыі – газета выходзіць па пятніцах. Бясплатна прымаюцца віншаванні аб'ёмам да 15 слоў, якія паступілі ў рэдакцыю да аўторка ўключна. Зрабіце прыемнае сваім блізкім – павіншуйце іх праз газету!
Калі вы хочаце размясціць аб'яву аб знаёмстве, калі ласка, указвайце адрас да запатрабавання. Бясплатна змяшчаюцца аб'явы аб знаёмстве аб'ёмам да 15 слоў. Публікуюцца па чарзе. Па-за чаргой – платна. Жадаем знайсці сваё шчасце!

**Купон** 4

да рубрык «Віншаванкі» і «Знаёмствы».
Бясплатна змяшчаюцца тэксты аб'ёмам да 15 слоў.
Ананімныя купоны не разглядаюцца. Пішыце, калі ласка, разборліва.

ТЭКСТ

Рэгіянальная газета

ПРОЗВІШЧА, ІМЯ, АДРАС (НЕ ДЛЯ ДРУКУ)

# Мае суседзі

Як ні недарэчна ў наш час гэта гучыць, але нават ад граматных людзей здараецца пачуць водгук пра суседа, што ён, маўляў, дзіўны чалавек. "Чым ён жыве? Ён і не курыць, і не п'е". Ёсць такія "дзівакі" сярод маіх суседзяў-дачнікаў.

Адзін з іх – вынаходнік. Ужо шмат год таму пабудаваў дачу і кожны год істотна ўдасканальвае гэтую гаспадарку: пабудаваў саўну, цяпліцу, купіў і прыстасаваў гумавы басейн, хлеў у яго двухпавярховы, ёсць станок для падоўжнай распілоўкі бярвення, а ў доме – цёплы туалет і да т. п.

Другі – механік і будаўнік, майстар-залатыя рукі. І таксама непітушчы. Узвёў і дом, і флігель, і гараж, купіў мінітрактар і возіць з лесу дровы, з вялікага поля – ураджай бульбы. І вучыць падлетка-сына кіраваць вялікай гаспадаркай.

Захопленых рознай творчасцю людзей быццам стварае сама зямля. Вось дачнік-птушкавод. Калісьці ён набыў штук трыццаць курэй. Відаць, не вельмі было цікава: птушка, па яго словах, давалі неразумная. Цяпер завёў індычак, спачатку чорных, пазней белых. Індык – прыгажун. Пыхлівы, важны. Крылы вострымі канцамі чэрціць па зямлі, чырвоны грэбень – проста пан! Грубы крык: "Іду на Вы!". А ўсе індычкі паводзяць сябе паслухмяна. Лятаць яны не могуць, толькі ўскочыць могуць на пляцень.

Гаспадар гэты вывучыў звычкі і характары хатніх птушак.

Вось ранак на дачах. Крыху ў тумане вадаём. А ўжо да яго надзвычай стройным ланцужком вядзе качанят качка-мама: тут і раўненне, і інтэрвалы, як у страі! А самі гэтыя "салдацікі" – вельмі мілыя шэранькія пухнатыя камячкі. Наглядзішся на іх ад раніцы – і дзень увесь ходзіш прасветлены.

Растуць яны, як цеста на дражджах. Праз два тыдні іх не пазнаць: колер пуху памяняўся, акрэпла чорненькае пер'е, абазначылася крыло. Плывуць, як лодачкі, да астраўкоў з водарасцяў, ныраюць – ежу дастаюць. Усё тым жа строем следам за качкай-мамай вяртаюцца ў вальер.

А гэтым летам быў яшчэ вельмі дзіўны выпадак. Пяць буйных качыных яек падклалі малой курачцы, якая ўжо выседзела сваіх куранятак, таму што качка сышла з гнязда і не захацела іх выседжваць. Карміцельна-прыгажуня стракаценькая курачка папрацавала за вялікую гультайку – змагла чужыя яйкі выседзець і падарыць качанятам жыццё. Ды гэта былі і не простыя качкі, а інда-качкі, мяшанцы дзвюх розных парод хатняй птушкі. Гаспадар гэты – наш маладзечанскі мастак.

І жанчыны не адстаюць у працы і творчасці на дачы. Мая суседка любіць разводзіць кветкі і экзатычную гародніну. З лесу прынесла кветкі – лясныя званочкі – яны прыжыліся, першацвет таксама расце на клумбе. Гародніна ў яе не простая: капуста брокалі, цвятная, кальрабі, фасоля "заморская" спаржавая, і соя, і кавуны. Не ўсё, вядома, удаецца, але галоўнае – эксперымент.

Другая з нашай вуліцы суседка ўтрымлівае гарод, кветнікі ў такім выдатным парадку, на еўрапейскі ўзор, што хто заўгодна можа павучыцца: роўныя рады пасадак, кветкавыя рабаткі і ружоўнік, клумбачкі – заўсёды ўсё чыста выпалата і падрэзана, акуратна падвязана. І ўся сям'я ўмее захоўваць такі парадак. Шмат у людзях ёсць добрага.

Усё лепшае ў чалавеку выклікае да актыву Прырода-маці. Аздараўляе яго неабходнасцю працы і творчасці, няхай не вялікай, простай, затое – сваёй. Або забытыя веды прымушае прыгадаць і паўняць. Яна яго набліжае да ідэалу. Ён – homo sapiens, разумны чалавек!

Паэт пра блізкасць з прыродай такіх вялікіх "дзівакоў", як **Гётэ** і **Тургенеў**, сказаў цудоўныя словы:

*Он трепет древесных листов понимал.*
*Он трав разумел прозябанье.*
*Была ему звёздная книга ясна,*
*И с ним говорила морская волна.*

**Галіна ЧАКАСІНА, дачніца-пенсіянерка.**

# ВІНШАВАНКІ

З юбілеем **Веру Міхайлаўну Капуцкую**! Жадаем моцнага здароўя, радасці, сямейнага дабрабыту, усяго найлепшага. *Сяброўкі.*

**Лілію Міхайлаўну Луніну** з юбілеем! Моцнага здароўя, шчасця, дабрабыту, поспехаў ва ўсім! *Сям'я Цяпкіных.*

**Віталя Голуба** з 26-годдзем! Жадаем шчасця, здароўя, даўгалецця, сямейнага дабрабыту, кахання. *Жонка, сынок, сям'я Дылеўскіх.*

**Надзею Шаўроўскую** з 18-годдзем! Няхай кожны дзень звычайнага жыцця прыносіць табе радасць! *Мама, тата, сястра і Ромка.*

Віншую **Вольгу Віржык** з 17-годдзем! Жадаю здароўя, шчасця, поспехаў у вучобе і ўсяго найлепшага ў жыцці. *Эдуард Бараноўскі.*

■ **ІМЯНІНЫ**

**25 студзеня**
**Праваслаўныя**: Таццяны, Пятра, Савы.
**Каталіцкія**: Мілаша, Паўла.
**26 студзеня**
**Праваслаўныя**: Елізара, Пятра.
**Каталіцкія**: Паўліны, Палікарпа, Цімафея.
**27 студзеня**
**Праваслаўныя**: Ніны, Адама, Аўсея, Веньяміна.
**Каталіцкія**: Анелі, Пшыбыслава, Пшэмыслава, Яна.
**28 студзеня**
**Праваслаўныя**: Івана, Паўла.
**Каталіцкія**: Валерыя, Тамаша.
**29 студзеня**
**Праваслаўныя**: Гаўрылы, Максіма, Пятра.
**Каталіцкія**: Францішка.
**30 студзеня**
**Праваслаўныя**: Антона.
**Каталіцкія**: Марціна, Мацея.
**31 студзеня**
**Праваслаўныя**: Кірылы.
**Каталіцкія**: Марцэліны, Яна.

■ **ХАВАЙСЯ Ў БУЛЬБУ**

# Максімка

Усё пачалося з таго, што кампанія маладых людзей вырашыла культурна правесці выхадны дзень сам-насам з прыродай і скрыняй гарэлкі на невялікім лясным возеры. У лік кампаньёнаў уваходзіла асоба афрыканскай нацыянальнасці па імені **Мугумба Мугабе** (у кампаніі – **Максімка**) ростам за два метры і вагой кілаграмаў пад 150. Ноччу гарэлка скончылася, народ успомніў пра наяўнасць возера і вырашыў перайсці да водных працэдур.

Калі Максімка зразумеў, што спаборнічаць з бледнатварымі братамі больш не можа, ён залез на задняе сядзенне аўтамашыны і заснуў здаровым п'яным сном. Астатнія ж перайшлі да абмеркавання народнай мудрасці: "Колькі гарэлкі ні бяры, а ўсё адно два разы бегаць". Пасля завяршэння нарады было вырашана паслаць аўтамабіль у бліжэйшае сяло. Машына, якой кіравала вясёлая рука заліхвацкага ездака, доўга пятляла па невялікіх дарогах, пакуль не знайшла спакой сярод невялікага балотца, зарослага чаротам. Экіпаж, пасля некалькіх беспаспяховых спробаў выслабаніць жалезнага сябра з багны, адправіўся за падмогай у бязаны лагер. Максімка прачнуўся ад квакання жаб і яркага святла, што біла проста ў твар. Вылез на бераг, сабраў у кучу думкі і адчуў страшныя голад і смагу. Голас прадкаў параіў яму залезці на высокае дрэва і агледзець наваколле з мэтай знаходжання супляменнікаў і ежы.

У гэты час два мясцовыя жыхары нялэўнага ўзросту і сацыяльнай прыналежнасці, **Глеб** і **Канстанцін**, якія збіралі грыбы, выйшлі з лесу і спыніліся на адпачынак пад высокай разгалістай хвояй. Дасталі тармазкі і з ціхай радасцю ўзяліся раскладваць хлеб, сала, цыбулю і бутэлькі з самагонкай на мятую газетку. Максімку, які ў гэты час намагаўся дасягнуць верхавіны дрэва, падвёў расстроены алкаголем вестыбулярны апарат. Ён сарваўся з хвоі і грымнуўся ўсімі сваімі 150 кілаграмамі проста перад аслупянелымі жыхарамі сельскай глыбінкі. Вялізная чорная голая істота, якая звалілася аднекуль з неба, з вывернутымі ноздрамі і бялкамі вачэй, што шалёна варочаліся, але без хваста, мацюкнулася па-руску. Глеб і Канстанцін, адчуваючы, як у штанах пачало па-здрадніцку цяплець, павольна апусціліся на зямлю. Калі Максімка ўволю намацюкаўся, па-сяброўску паляпаў па плячы Глеба і хрыпатым голасам сказаў:

– О так, цяпер я буду рабіць паесці.

Няцяжка зразумець, якія думкі мільганулі ў галаве Глеба пасля такой аптымістычнай заявы. З адчайным крыкам ён кінуўся праз буралом у лес. Максімка праводзіў здзіўленым позіркам мужыка, прысеў да газеткі і ўзяўся за сала з цыбуляй.

– О, а ты чаму не есці? – звярнуўся ён да Канстанціна.

Вясёлая кампанія ўсю раніцу шукала кінуты аўтамабіль і свайго таварыша. Калі яны прыйшлі на крыкі да месца падзей, Максімка з Канстанцінам ужо дапівалі самагонку, нетаропка ведучы гутарку "за жысць". Скончылася гэтая гісторыя лазняй у вёсцы Канстанціна. Ну, а потым, як вядзецца, народнае гулянне. Глеб, праўда, так і не прыйшоў. Занадта ўжо быў уражлівы, небарака...

**Сямён БОНДАР.**

■ **ЯК ЗВАРЫШ, ТАК І З'ЯСІ**



# Юшка па-партугальску

**2 кг рознай свежай марской рыбы, 5–6 лыжак алею (лепш аліўкавага), 2 цыбуліны, 2 памідоры, лаўровы ліст, зеляніна, 2 зубчыкі часнаку, невялікая сухая скарыначка апельсіна, крыху белага віна, соль, перац.**

Рыбу пачысціць, адрэзаць плаўнікі, хвасты і галовы, буйную рыбу разрэзаць на кавалкі. Нарэзаную кольцамі цыбулю абсмажыць у алеі, дадаць нарэзаныя памідоры, зялёную цыбулю, пятрушку, лаўровы ліст, тоўчаны часнок і апельсінавую скарынку. Усё крыху патушыць, дадаць хвасты, галовы, плаўнікі, пасаліць і заліць вадой так, каб рыба была ёю пакрытая. Паставіць на моцны агонь, каб вада хутка закіпела, варыць 7–8 хвілін. Затым дадаць астатнюю рыбу і варыць яшчэ 7 хвілін. Юшка варыцца не больш за 15 хвілін. Зняць суп з агню, дадаць белае віно, паперчыць і паставіць на слабы агонь на 5 хвілін. Рыбу асцярожна выняць і пакласці асобна. Булён працадзіць праз сіта, зверху пакласці ў яго падсмажаныя скрылькі хлеба і пасыпаць насечанай зелянінай пятрушкі.

# Бульбяная запяканка

**500 г бульбы, 1 яйка, 1 цыбуліна, 1/4 шклянкі малака, 1 лыжка масла.**

У тоўчаную гарачую вараную бульбу дадаць гарачае малако, сырыя яйкі, соль, распушчанае масла і добра перамяшаць. Перакласці палову ўсёй масы на патэльню, змазаную маслам, разраўняць, пакласці на яго слой падсмажанай цыбулі і закрыць астатняй часткай масы, зноў разраўняць, змазаць смятанай або спырснуць маслам, паставіць у гарачую духоўку і запякаць 20–25 хвілін.

**Кінатэатр «Радзіма»**
**Студзень**
**Вялікая зала**
25–27 "**Вірус кахання**", прэм'ера, ЗША, камедыя 15-30, 19-30, 21-30
"**Са зброяй у руках**", ЗША, баявік 17-30
28 студзеня – 3 лютага "**Без пачуццяў**", ЗША, маладзёжная камедыя 15-30
"**Брацтва ваўка**", Францыя–ЗША, эпічны баявік 17-30, 20-30
**Для дзяцей**
27 "**Чароўныя казкі**" 13-00



# ЗНАЁМСТВЫ

Самастойны мужчына 49/173/70, без шк/зв., пазнаёміцца з жанчынай 40-55 год для стварэння сям'і. Маладзечна-4, а/с 45.

Нежанаты мужчына без шк/зв., в/в, пазнаёміцца з жанчынай да 40 год. 222310, Маладзечна-3, п/п XII-ВН №642533.

Абаяльная, прываблівая і забяспечаная жанчына 40/167/60 шукае спадарожніка жыцця. Маладзечна-1, п/п МС 0776279.

■ КРЫЖАВАНКА

Ірына САХАЦКАЯ.



**По гарызанталях:** 1. У рэлігіі: месца вечных пакутаў грэшнікаў, пекла (уст.). 4. Малады пан. 6. Надзейная абарона, апора. 9. Ігральная карта. 10. Газ з рэзкім пахам. 11. Вал у машынах. 12. Цвёрды, са слаямі рознай афарбоўкі мінерал. 13. Група дрэў, кустоў, якія густа растуць. 14. Дзікі горны баран. 17. Непрыемнае пачуццё, якое выклікаецца кім-небудзь, чым-небудзь. 20. Пачатак дня. 23. Паўстанне, мяцеж. 25. Назва французкіх духоў. 28. Вялікі камень – абломак горнай пароды. 30. Адна з канечнасцяў чалавека. 31. Самка паўліна. 32. На Поўначы і Далёкім Усходзе: вяленая рыба. 33. Закупорка для бутэлек. 34. Сплаў свінцу, волава і сурмы для адліўкі друкарскіх шрыфтоў. 35. Радужная абалонка вока. 36. Той, хто піша кнігі, стварае музыку. 37. Корм для коней, звычайна, авёс. 38. Малюнак Бога ў выглядзе партрэта ў фарбах.

**Па вертыкалях:** 1. У Японіі: танцоўшчыца ў чайных дамах. 2. Кастрыраваны слуга пры гарэме. 3. Вадкасць, насычаная варам таго, што ў ёй варылася. 4. Школьны стол. 5. Выпіўка (разм.). 6. Спецыяльнае памяшканне для рамонту самалётаў. 7. Травяністая расліна сямейства бабовых. 8. Сухі, рэзкі гук. 15. Моцны спіртны напітак. 16. Закончаная частка драматычнага твора, спектакля. 18. Аддалены працяжны шум. 19. Лятучыя прадукты гарэння. 21. Жаночае імя. 22. Зварот да малога дзіцяці, каб забавіць яго. 23. Празрысты, слаісты мінерал. 24. Дзікі асёл, які водзіцца ў Азіі. 25. Бланк для запаўнення якімі-небудзь звесткамі. 26. Вялікі ўсходнесібірскі алень. 27. Металічны кручок для зашпільвання адзення. 28. Мазь для чысткі скуранога абутку. 29. Павучанне, настаўленне.

**Адказы на крыжаванку, змешчаную ў №3**

Мухамор. Ратуша. Айва. Апора. Апорт. Трыпціх. Хваля. Янтар. Расада. Арап. Пацеха. Аўчарка. Аўчына. Аўторак. Круіз. Запалка. Апокрыф. Форум. Муслін. Насос. Стандарт.

## Гараскоп 28 студзеня – 3 лютага

**Авен**
(21.03–20.04)

Перыяд дабратворнага супрацоўніцтва ў дзелавой сферы. Вы паспяхова скончыце праекты, атрымаеце чаканы прыбытак. А ў апошнія дні студзеня ў свабодных Авенаў магчымая знакавая сустрэча. Ці выйдзе з гэтага раман, невядома. Але ў тым, што гэта будуць шчаслівыя дні, можна не сумнявацца.

**Цялец**
(21.04–21.05)

Цяльцы, якія з галавой акунуліся ў работу, не збіраюцца спыняцца. Дарэчы, гэты перыяд прадуктыўнасці распаўсюджваецца не толькі на бізнес, але і на ўсе сферы жыцця. Вы, як чалавек эканомны, можаце схадзіць... у казіно. Не тое, каб выйгрыш забяспечаны, але пашанцаваць можа.

**Блізняты**
(22.05–21.06)

Калі першая палова тыдня пройдзе ў адноснай адзіноце і будзе адзначаная далейшым развіццём навучальных праграм, то ўжо да 1 лютага сітуацыя памяняецца і будзе азнаменаваная шэрагам знаёмстваў і прыхільнасцю начальства і калег. Павышаная працаздольнасць.

**Рак**
(22.06–23.07)

Перыяд будзе адзначаны абнаўленнем разнастайных аспектаў вашай дзейнасці і інтэнсіфікацыяй развіцця бізнесу. Кароткая замежная паездка дапаможа ўмацаваць сацыяльны ці палітычны статус. Аднак праблемы са здароўем могуць перашкаджаць рабоце, таму прыміце прафілактычныя меры.

**Леў**
(24.07–23.08)

Не прымайце блізка да сэрца разрыў нейкіх адносінаў: хутчэй за ўсё, яны ўжо аджылі сваё, і, рана ці позна, гэта павінна было адбыцца. У выхадныя дні – сустрэча з сябрамі юнацтва.

**Дзева**
(24.08–23.09)

Вы некалькі збавіце абароты па вельмі банальнай прычыне: не вельмі добрае самаадчуванне перашкодзіць рабоце. А вось 3-га лютага прынясе шэраг "сюрпрызаў" у сферы ўзаемаадносінаў, з якімі трэба неадкладна разабрацца. Перш за ўсё, гэта тычыцца сямейных Дзеваў або тых, у каго дзеці-падлеткі.

**Шалі**
(24.09–23.10)

У гэты перыяд вам давядзецца перажыць некалькі непрыемных сітуацый. Асабліва можа засмуціць дзень 1-га лютага, калі вам не на жарт папсуюць нервы. Аднак тыя, хто ўмее ацаніць тое, што адбываецца, як досвед, потым будуць удзячныя лёсу.

**Скарпіён**
(24.10–22.11)

Настрой ствараць і будаваць можа быць паспяхова рэалізаваны ў любой сферы – ад стварэння фірмы да дробнага рамонту ў кватэры. Незвычайны прыліў энергіі і бадзёрасці можа зрабіць будучы перыяд надзвычай прадуктыўным. Адкладзіце паездку.

**Стралец**
(23.11–21.12)

Паспрабуйце як мага больш часу ўдзяліць дакладнай пастаноўцы задачы і выпрацоўцы планаў. Ваша дзейнасць павінна быць абмежаваная рамкамі жорсткай сістэмы. Цяпер не час фантазіраваць. 3-га лютага прынясе прыемныя любоўныя перажыванні і добры настрой.

**Казярог**
(22.12–20.01)

Вы зможаце ўпарадкаваць фінансавую сферу. А 3-га лютага – цудоўны дзень для сямейных і асабістых стасункаў, калі светлыя перажыванні і пяшчота блізкіх прынясуць доўгачаканы спакой. Калі прыслухаецеся да інтуіцыі, то можаце атрымаць "адтуль" адказы на многія пытанні, якія вас хвалююць.

**Вадалей**
(21.01–19.02)

Будучы тыдзень – гэта перыяд, калі вы зможаце плаўна перайсці ад формулы "я з"яўляюся" да формулы "я хачу стаць". Гэтаму будзе садзейнічаць і спрыяльны збег абставінаў. Аднак абвострацца стасункі са старэйшым пакаленнем.

**Рыбы**
(20.02–20.03)

Перыяд можна назваць цалкам вашым, таму што ніякіх перашкод у справах і ўзаемаадносінах вы не знойдзеце. Будзе спакуса плыць па цячэнні замест таго, каб дзейнічаць рашуча. Таму толькі вашая лянота можа з'явіцца перашкодай для ўмацавання свайго становішча.

■ НЯВЫДУМАНЫЯ ГІСТОРЫІ

## Ужо шаснаццаць!

Здарылася гэтая гісторыя са знаёмым у час зімовай сесіі ў канцы сямідзесятых, калі ён вучыўся ў адным з тэхнічных ВНУ. Яго група сядзела на кансультацыі па вышэйшай матэматыцы, і хтосьці меў неасцярожнасць спытацца, ці можна карыстацца на экзамене падручнікамі. Да ўсеагульнага здзіўлення, выкладчык сказаў, што можна. Тут трэба сказаць некалькі слоў пра гэтага чалавека: тыповы выкладчык гадоў пад 60, інтэлігентны, спакойны, які прысвяціў усё сваё свядомае жыццё навуцы, а таму і патрабаваў высокую планку ведаў са студэнтаў. На наступны дзень на экзамене назіралася прыкладна такая карціна: падручнікі ва ўсіх разгорнутыя, усе адкрыта перагаворваюцца і паціху збіраюцца здаваць. Вось тут дзядуля і пачынае глуміцца: задае ўсялякія дадатковыя пытанні, усяляк топіць, і ў выніку кожны студэнт ідзе прэч з "двойкай".

Некаторыя не зміры́ліся з перадачай і пабеглі скардзіцца ў дэканат на дэспатызм. У аўдыторыю заходзіць намеснік дэкана, і пачынаецца разбор, як гэта так: пятнаццаць двоек запар уляпіць... У гэты час выкладчык, адпускаючы чарговага студэнта і запісваючы нешта ў сваім дзённіку, яго перабівае і спакойна гаворыць са шчырым здзіўленнем на твары:

– Чаму пятнаццаць? Шаснаццаць ужо.

## Шапка

Гісторыя здарылася ў першай палове васьмідзесятых са старэйшай сястрой маёй былой сяброўкі. Падарыў ёй муж ці то на Новы год, ці то на дзень нараджэння багатую футравую шапку, і ў гэтай шапцы рэгулярна каталася яна сабе на работу і з работы дадому на метро.

І вось едзе яна сабе так пасля напружанага працоўнага дня і, седзячы ў вагоне, стомленая, непрыкметна засынае. І ўжо толькі на самым пад'ездзе да роднай станцыі яе ўнутраны будзільнік усё ж спрацоўвае. Мая амаль швагерка прачынаецца і проста халадзее ад жаху: дарагой шапкі на галаве няма!

Яна сутаргава пачынае азірацца вакол. І што ж? Проста насупраць яе ў яе ж ўласнай шапцы сядзіць цётка, глядзіць ёй у вочы і цынічна так усміхаецца! Але гераіня нашая была не з баязлівых. Нядоўга думаючы, яна зрывае з нахабнай насмешніцы дзёрзка ўкрадзеную той шапку і борздзенька выскоквае з вагона. Асцярожна, дзверы зачыняюцца! – і блакітны экспрэс знікае ў цёмным тунэле.

Усхваляваная сястрыца стаіць на платформе з шапкай у руках і нейкім дзіўным пачуццём дыскамфорту, якое паступова пачынае лакалізавацца недзе ў вобласці шыі. Яна працягвае туды руку і знаходзіць там крыніцу нязручнасці, якая аказваецца ўласнай шапкай, што звалілася ў капюшон кажушка ў час нечаканага сну.

**Сямён БОНДАР.**




Тэлефонныя коды гарадоў рэгіёна: Маладзечна - 01773, Вілейка - 01771, Смаргонь - 01592, Ашмяны - 01593, Валожын - 01772, Мядзел - 01797, Астравец - 01591, Мінск - 017(2)

Рэгіянальная газета

Заснавальнікі: Аляксандр МАНЦЭВІЧ, Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ, Ніна МАНЦЭВІЧ.
Пасведчанне № 227.
Галоўны рэдактар **Аляксандр МАНЦЭВІЧ.**

Інфармацыйна-рэкламнае штотыднёвае выданне для рэгіёна і рэспублікі. Выходзіць па пятніцах.
Тыраж **8340 экз.** Індэкс **63212** (індывідуальная падпіска), **63369** (ведамасная падпіска).
Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях рэспублікі. У розніцу – цана свабодная.
**№4 (353) 25.01.2002.** РУП «Друкарня «Перамога», Міністэрства інфармацыі РБ. 222310, Маладзечна, вул. Таўлая, 11. Зак. № 275. Падпісана ў друк у 13.00 24.01.2002



**Наш адрас: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.**
**ТЭЛЕФОНЫ/ФАКС: (01773) 6-96-67, 5-38-41, 5-07-99.**
**E-mail: region_news@irex.minsk.by**
**http://regionnews.promedia.minsk.by**



**ПРЫЁМ ДРОБНЫХ АБ'ЯЎ**
**Маладзечна:** Вялікі Гасцінец, 68а. **Тэл. 69667, 53841.**
**Вілейка:** вул. Вадап'янава, 23, капіравальны цэнтр «Парус». **Тэл. 53935, 55284.**
**Смаргонь:** вул. Танкістаў, 8, рэдакцыя «Новой газеты Сморгони». **Тэл. 33077, 34353.**

Разліковы рахунак №3012164030006 у філіяле ААТ «Белзнешэканамбанк» у Маладзечне, код 211, атрымальнік ТАА Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета»